Цана асобнага нумару 15 гр. Przesyłka opłacona ryczałtem.

№ 67 (118). Вільня, Субота 17 Верасьня 1927 г. Год III.

# СЯЛЯНСКАЯ НІВА

Няхай жыве Беларускі Народ!

Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі:
ВІЛЬНЯ, ЗАВАЛЬНАЯ 6. (Wilno, Zawalna 6.).
Рэдакцыя адчынена штодня ад 9 да 3 гадзіны апрача сьвята.
Рэдактар прыймае ад 12 да 2 гадз.

Зямля Сялянству бяз выкупу!

Падпіска:
на адзін месяц — 1 зал., на 3 месяцы — 2 зал., на 6 месяцаў 4 зал., на год — 8 зал.
Для заграніцы удвая даражэй.
Аплата надрукаванага залежыць ад рэдакцыі
ВЫХОДЗЕ Ў СЕРАДУ І СУБОТУ.

ОРГАН БЕЛАРУСКАГА СЯЛЯНСКАГА САЮЗУ.

## Шкодны палітык.

Мы, як адвечныя жыхары Літоўска-Беларускага Краю, зьвязаныя гістарычным лёсам з Літоўскім Народам, вельмі спагадна адносімся да Літоўскага Народу. Доказам гэтага можа быць хоць-бы і тое, што ўвесь час мы падавалі весткі аб Літве, імкнучыся быць бесстароннымі, а ніколі, крытыкамі літоўскіх падзеяў. Аднак апошнія падзеі ў Літве змушаюць нас выказаць некалькі слоў процi цяперашняга літоўскага ўраду.

Перш-на-перш трэба ведаць, што цяперашні ўрад у Літве, так як цяперашні ўрад у Польшчы, дайшоў да ўлады пры помачы ўваружанай сілы. Пераважна ўсе ўрады, якія прыходзяць да ўлады карыстаючыся войскам, не зьяўляюцца ўрадамі народу—ўрадамі працоўных гушчаў: сялянства і работнікаў, а ўрадамі буржуазных клясаў.

Вось урад праф. Вальдэмараса якраз зьяўляецца ўрадам наскрозь буржуазным, які ў сваей палітыцы пэўне-ж не кіруецца інтарэсамі працоўных масаў, а інтарэсамі багатыроў. Нічога дзіўнага, што ў Літве часта ўзьнікаюць рожныя беспарадкі, якія канчаюцца вастрогамі і растрэламі.

Ня будучы там, на месцы падзеяў, нам даволі трудна дакладна разабрацца ў літоўскіх падзеях і затым астаўляем іх Літоўскаму Народу, каб ён сам найлепш зразумеў сваё палітычнае становішча і завёў у Літве такія парадкі, якія адказваюць інтарэсам літоўскага сялянства і наагул працоўным гушчам. Але разам з гэтым ня можам прапусьціць аднаго вельмі характэрнага факту, які гавора аб адносінах цяперашняга фашыстоўскага ўраду ў Літве да беларускага пытаньня. Газэта „Słowo“, у № 209 зьмясьціла выведы з праф. Вальдэмарасам у Жэнэве аднаго польскага карэспандэнта. На запытаньне польскага карэспандэнта: „Ці пан прафэсар, стоячы на грунце традыцыяў даўнейшай дзяржавы, Вялікага Літоўскага Княства, прызнае таксама цэласьць Вялікага Княства“, літоўскі старшыня ўраду адказаў:

— „Тутка якраз розьнімся з Палякамі. Мы ўважаем, што да пэўных рэчаў ужо вярнуцца немагчыма. Калісь Кіеў належыў да Літвы. Сяньня сфармаваньне ўкраінскай нацыянальнасьці амаль-што трэба прызнаць за факт дакананы, *а існуе таксама паважная спроба стварэньня беларускай нацыянальнасьці,* для якой сталіцай ёсьць сяньня Менск савецкі. Мы не ўважаем за магчымае для сябе рэвіндыкаваньне (вярнуць назад) гэтых зямель на аснове гістарычных правоў“.

Няма ведама, ці гэтыя словы былі зусім так выказаны, як гэта падае польскі карэспандэнт, аднак пакуль няма іншай справаздачы аб гутарцы праф. Вальдэмараса, трэба лічыць, што яны адказваюць запраўднасьці. Рэч ясная, калі так, дык над сказамі кіраўніка літоўскага ўраду нельга прайсьці моўчкі. Гэтыя сказы вельмі ярка характэрызуюць адносіны цяперашняго буржуазнага літоўскага ўраду да беларускага пытаньня. Больш няпрыхільных адносінаў да беларускага адраджэнскага руху нельга і прыдумаць. Бо што-ж могуць азначаць словы: „існуе паважная спроба стварэньня беларускай нацыянасьнасьці“ ды яшчэ толькі „для якой сталіцай ёсьць Менск савецкі“?

Гэта-ж усяму сьвету ўжо ведама, што беларуская нацыянальнасьць створана ўжо раней чымся літоўская, што беларускі народ жыве ўжо вякамі і даўно ўжо выказаў свой нацыянальны твар. Аб гэтым усе дзяржавы ўжо ведаюць, ды на'т аб гэтым гаворыцца ў Рыскім трактаце (праўда, гэта трактат не для Беларусаў). Як варожа не адносяцца польскія ўрады да беларускага руху, аднак і яны прызналі існаваньне беларускай нацыянальнасьці ня толькі ў Менску, але і пад Польшчай—у Заходняй Беларусі. Доказам чаго могуць служыць хоцьбы языковыя ўставы выдадзеныя для заграніцы. Праф. Вальдэмарас інфармуючы заграніцу аб беларускай нацыянальнасьці крыху запазьніўся, бо ўсе ўжо знаюць, што беларуская нацыянальнасьць ужо даўно сфармавана. У мовах праф. Вальдэмараса, які ня прызнаў існаваньня беларускай нацыянальнасьці, і які сьведама зусім абмінуў 2 з паловай мільёны Беларусаў у Заходняе Беларусі, кажучы, што толькі ў савецкім Менску ёсьць проба стварыць нацыянальнасьць, Беларусы павінны бачыць выразную тэндэнцыю да разьвязаньня спору паміж Польшчаю і Літвою бяз нас. Цікава толькі, што праф. Вальдэмарас хоча зрабіць з Заходняю Беларусю, забраць яе ўсю сабе, ці падзяліць з Польшчаю? Толькі гэтыя два пытаньні могуць насоўвацца ў сувязі з гутаркаю старшыні літоўскага ўраду. Але Беларускі Народ ніколі ня згодзіцца, каб гэтыя пытаньні былі вырашаны па думцы праф. Вальдэмагаса. У гэтай справе можна было-б забіраць больш голасу, але з увагі на тое, што цяперашні буржуазны літоўскі ўрад не адказвае волі Літоўскага Народу, няма патрэбы гэта рабіць. Літоўскі Народ, як масы сялясства і работнікаў, пэўне-ж зусім інакш заглядаецца на справу беларускае нацыянальнасьці, трэба толькі дзівіцца адвазе кіраўніка літоўскага ўраду, які робіць палітычныя выступленьні шкодныя для Літоўскага Народу.

А Замежны.

## Аб зьмене польскай канстытуцыі.

Учора адбылося паседжаньне паразумеваўчае камісіі Сойму і Сэнату для аканчальнага вырашэньня зьмены арт. 26 канстытуцыі. Пасьля дыскусіі прынята гэткі тэкст артыкулу:

„Сойм і Сэнат могуць разьвязацца і вызначыць тэрмін новых выбараў на аснове пастановы аднэй з гэтых палат, прынятай уставовай лічбай сяброў данай палаты. Адначасна ў абодвух выпадках з самога права разьвязваецца і другая палата. Прапазыцыя аб разьвязаньні павінна быць падпісана ня менш як 1/3 часткай паслоў ці сэнатараў.

Правілы гэтага артыкулу датычаць толькі палат выбраных першы раз на аснове канстытуцыі ад 17 мая 1917 году“.

Як ведама, урад процi гэтага артыкулу і затым у хуткім часе можам спадзявацца рожных нязвычайных палітычных падзеяў.

## З Лігі Народаў.

На сабраньні Лігі народаў 15.IX разглядалася справа выбару Бэльгіі iзноў у склад Рады Лігі Н. нясталым сябром. Пры галасаваньні прапазыцыя не знайшла сабе кваліфікаванай большасьці і затым Бэльгію ня выбралі ў Раду. У сувязі з гэтым узрастаюць шансы Фінляндыі на выбар у сябры Рады.

Другой справай якая разглядалася на паседжаньні была справа аружжа ў Вэтэрплятэ. Гэтая справа была ўжо вырашана Лігай у 1924 г.. Цяпер Сэнат вольнага места Данціга падаў заяву ў Лігу Народаў аб зьмене першае пастановы.

На прапазыцыю Мін. Штрэзэмана гэтая справа адложана на наступнае сабраньня Лігі Народаў.

## Украінскі мэмарыял.

У Жэнэву прыехала ўкраінская дэлегацыя Заходняе Украіны з мэтай падачы павадыру сабраньня Лігі Народаў Мэмарыялу падпісанага старшынёй Украінскай нацыянальнай рады др. Аўг. Петрушевічам. Мэмарыял пратэстуе процi таго, што каля 8 мільёнаў Украінцаў наперакор прынцыпу аб самастаноўленьні народаў, прымушаны жыць пад панаваньнем польскім, румынскім і чэхаславацкім. Мэмарыял азначае, што ўспомненыя дзяржавы аднолькава да Заходніх Украінцаў тасуюць палітыку ўціску ўгаліне языкова і этнічнай. Гэтая палітыка мае на мэце ўмежнародаваньне Украінскага народу. Нават не прытрымліваюцца пастановы датычачае нацыянальных меншастяў. Мэмарыял дамагаецца аўтаноміі для ўкраінскіх абшараў і рэвізіі пастановаў, на аснове якіх Украінцы наперакор волі былі ададзены пад панаваньне іншых дзяржаваў, а палуль што прынамсі датрыманьня пастановаў у справе нацыянальных меншасьцяў.

Вышэй пададзеная веста ўзята з польскіх газэт і затым няма зусім пэўнасьці, што яна ў дэталях адказвае запраўднасьці, бо Украінскі Народ, як і Беларускі імкнуцца толькі да незалежнасьці.

# З жыцьця Польшчы.

### Соймавыя дэманстрацыі.

Як ведама, Прэзыдэнт Рэчыпаспалітай склікаў Сойм у тэрміне на 3 дні пазьнейшым чымся гэта прадбачана канстытуцыяй. У гэтай справе адбыўся конвэнт сэньёраў Сойму, на якім пастаноўлена, каб маршалкі Сойму і Сэнату ў гэтай справе зложылі Прэзыдэнту пратэст. Дня 13-га верасьня маршалкі Сойму і Сэнату падалі Прэзыдэнту адпаведную дэкларацыю.

### Паседжаньне Сойму.

На 19-га верасьня вызначана першае паседжаньне Сойму. На парадку дня сойму маюць быць тыя самыя справы, што меліся быць абгаварываны на паседжаньні Сойму ў ліпені, якое неадбылося з прычыны зачыненьня сэсіі. Між іншым на парадку дня маюць быць такія справы: трэцяе чытаньне праекту ўставы аб вясковай валасьці, аб павятовых саюзах камунальных, аб распараджэньні Прэзыдэнта аб прэсавым праве і аб распараджэньні Прэзыдэнта аб распаўсюджваньні непраўдзівых вестак і зьнявагі і інш.

Цікава, як урад пачне рэагаваць на працу Сойму.

### Пратэст у справе пагвалчаньня праваў украінскай мовы.

У зьвязку з праекта новага распараджэньня Прэзыдэнта Рэчыпасп. Польскай у справе вядзеньня гандлёвых кніг і гандлёвай карэспандэнцыі ў польскай мове, Украінская Парлямантарная Рэпрэзэнтацыя выдала камунікат, якім рашуча пратэстуе проці пагвалчаньня праву народнай мовы. У камунікацыі сказана, што Украінскі Пасольскі Клюб з прычыны спыненьня соймавай сэсіі ня можа змагацца з гэтым распараджэньнем дзеля чаго заклікае ўсе Украінскія гандлёвыя ўстан. да рашучага змаганьня з новай пробай пагвалчаньня праваў народнай мовы, бо гэты факт працівіцца 110 артыкулу польскай канстытуцыі аб правах нацыянальных меншасьцяў.

# НАВІНЫ.

**— Паседжаньне меставай Рады.** На паседжаньні віленскай меставай Рады 7 г. верасьня прынята пастанова, згодна якое, адну вуліцу ў Вільні назавуць вуліцаю „Гірша Лекерта". Г. Лекерт—гэта віленскі работнік, які, яшчэ за часоў царскіх, стрэліў у віленскага губэрнатара Фон-Валя. За гэта Лекерт быў асуджаны на сьмерць і яго казьнілі.

**— Паседжаньне Цэнтральнага Камітэту Б. Х. Д.** адбылося 9-га верасьня, на якім разгляндаліся розныя бягучыя справы.

**— Беларускія лекцыі.** 18 верасьня мае адбыцца лекцыя ў в. Дзеркі Плюскай валасьці, Браслаўскага павету, а 25 верасьня ў мястэчку Новы-Пагост.

Лекцыі будзе чытаць старшыня Браслаўскага Гуртка Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры гр. К. Юхневіч.

**— Беларускі Народны Тэатр** Беларускага Інстытуту Гаспадаркі і Культуры знаходзіцца цяпер у перыядзе рэарганізацыі. Запрошаны новы дырэктар тэатру, а таксама новыя жаночыя і мужчынскія сілы. За 2—3 тыдні тэатр мае ізноў паехаць на правінцыю.

**— Спэктакль-вечарына ў Арлянятах.** Гурток Беларускага Інстытуту Гасп. і Культуры ў Арлянятах ладзіць 24 верасьня ў сваёй вёсцы беларускі спэктакль-вечарыну. Маюць быць згуляны: „Мікітаў лапаць" і „Боты". Пасьля спэктаклю скокі.

**— Беларускі Выбарчы Камітэт у Горадні.** У сувязі з выбарамі ў меставую Раду ў Горадні заснаваўся Беларускі Выбарчы Камітэт. У Камітэт увайшлі беларускія работнікі на чале з гр. Карпюком.

Камітэт прыступіў да працы і маніцца правесьці ў Раду каля 5—6 кандыдатаў.

**— Сьледзтва ў справе „Грамады".** Паводле польскіх газэт, сьледзтва ў справе арыштаваных паслоў і дзеячоў ужо закончана. Судовая справа мае разглядацца пасьля ўлажэньня акту абвінавачаньня.

**— Наваградзкі судовы працэс.** 15 г. м. у Наваградку выданы прысуд у справе 15 асоб, абвінавачаных у камсамольстве. Суд засудзіў 2-х на 2 гады дому паправы, астальных па 1 году кожнага, залічаючы 4—8 месяцаў прэвэнцыйнага вастрогу.

**— Соймік у Глыбокім.** Новы павятовы соймік у глыбокім, у які, няведама якім парадкам, прайшлі Паляки, выключыў са свайго складу трох Беларусаў, за тое, што яны некалі былі ў Грамадзе. Іншых матываў польскае „Słowo" замесьціўшае гэтую вестку не падало.

**— Выключэньне паслоў з Украінскага Клюбу.** У сераду адбылося паседжаньне Украінскага Пасольскага Клюбу, на якім, між іншымі справамі, разглядалася справа выступленьня часткі паслоў з „Сельробу" проці іншых паслоў клюбу. У рэзультаце нарады пастаноўлена выключыць з клюбу наступных паслоў: Казіцкага, Макіўку, Чучмая, Братуня і Падгірскага, а таксама сэн. Пастэрнака.

**— Перасаліў.** У мінулую нядзелю рыхтаваўся прачытаць аж тры лекцыі кс. Леснабродзкі. Аднак-жа, калі зьвярнуўся ён да ўлады па дазвол, дык выясьнілася, што справа — „nie do przyjęcia".

Перасаліў, дык і дазволу не атрымаў...

Хоць лекцыі не адбыліся, але-ж рэкляму аб сабе, дык пашырыў.

Няхай-жа адказа на гэта яго афіша: Уладзімір Леснабродзкі—быўшы генэрал расейскай арміі, а цяпер каталіцкі ксёндз. І вось, гэты п. Леснабродзкі, зьмяніўшы мундзер на сутанну, а праваслаўе на каталіцызм, проста, з нейкім зьдзічэньнем пачаў нападаць на праваслаўе.

А гэтым самым паказаў, што ён і пад сутанай ксяндза носіць салдацкую „шаблю", замест хрысьціянскай любові.

*Сяляне! Запісвайцеся у Беларускі Сялянскі Саюз!*

# Што дзеецца ў сьвеце?

### Аб Забурэньнях у Літве.

Літоўская Ковенская газэта „Jaunaks Zinas" данасіць, што да Міністра фінансаў, заступаючага пр. Вальдэмараса, да Міністраў Цэнтральных і вайсковых спраў прыбыла дэлегацыя з просьбай аб спыненьні далейшых экзэкуцыяў у сувязі з бунтам у Таўрогах. Апрача дэлегацыі левай партыі была дэлегацыя ад кабет, якія дамагаліся ўласкавеньня вязьніх афяр.

Прэзыдэнт Сметона дэлегацыі не прыняў.

### Зямельная рэформа ў Літве.

Паводле вестак з польскіх газэт у Літве праводзіцца і далей зямельная рэформа, на якой мэты забіраецца дворская зямля. У Ковенскай прэсе апублікована вестка наступнага зьместу.

„Управа Зямельнай Рэформы інфармуе, што ў сёлетнім годзе будзе распарцэлявана каля 40.000 ha. дворнай зямлі. Забрана таксама некалькідзесят маёнткаў, якія будуць распарцэляваны на патрэбы ахвотнікаў. Яшчэ ў бягучым годзе маніцца правесьці памеры гэтых двароў, у наступным прыступіць да парцэляцыі. Для ахвотнікаў прызначана каля 30.000 гэк. Убудучым тады годзе ўсе ахвотнікі будуць мець зямлю. Рэформа будзе праводзіцца пакуль ня стануць падзеленымі ўсе маёнткі прызначаныя на парцэляцыю. Усе пагалоскі аб затрыманьні рэформы ёсьць толькі справа людзей злоснай волі.

### Літоўскі Сойм на 35 паслоў.

Паводле новага праекту зьмены канстытуцыі ў Літве, Сойм мае складацца з 35 паслоў, замест цяперашніх 85.

Апрача гэтага, у канстытуцыі мае быць уведзяны параграф, у якім сталіцай Літвы мае лічыцца Вільня.

### Аб забойстве Савінкава.

Расейская газэта „Руль", што выходзе ў Бэрліне зьмяшчае цікавы ліст вядомага латыскага сацыяліста Бруноўскага аб таямнай сьмерці Савінкава. Бруноўскі, які сядзеў у Маскоўскай чрэзвычайцы, а пасьля быў вызвалены, піша, што прыезд Савінкава ў С.С.Р.Р. быў згары ўгавораны, а судовы працэс загадзядзя інсцэнізаваны Савінкоў заключыў дагавор з прадстаўнікамі Г.П.У., абавязваючыся даць на судзе пэўнае прызнаньне на замену на пэўныя варункі. Гэтыя апошнія не былі бальшавікамі датрыманы і Савінкоў пасьля працэсу астаўся ў вастрозе. Пачаў ён тады дамагацца выкананьня дагавору і напісаў да Дзяржынскага. Баючыся ягонай энэргіі і ня хочачы выпусьціць яго на волю, чрэзвычайка атруціла Савінкава і інсцэнізавала яго самогубства, выкідаючы мяртвае цела з 5-га паверху на вуліцу.

### Землятрасеньне ў Крыме.

На поўдні Сав. Расеі адбылося землятрасеньне, якое прычыніла вялікія шкоды найбольш пацярпела м. Ялта, дзе каля 20% камяніц зусім разбурана.

Сярод людзей ёсьць афяры: 18 асоб забітых і 400 раненых. Сярод жыхараў Ялты панавала вялікая паніка, усе кінуліся выежджаць з места.

ЯКУБ КОЛАС. 1)

# Сымон Музыка.

Поэма.

*Беларускай моладзі сваю поэму прысьвячае.*

АЎТАР.

Ад роднае зямлі, ад гоману бароў,
Ад казак вечароў,
Ад песень дудароў,
Ад сьветлых воблікаў закінутых [дзяцей,
Ад шолаху начэй,
Ад тысячы ніцей,
З якіх аснована і виткана жыцьцё
І злучана быцьцё і нябыцьцё, —
Зьбіраўся скарб, струменіўся [няспынна,
Вясёлкавым ірдзеньнем мнесьпяваў,
І выхаду шукаў
Адбітак родных зьяў
У словах вобразах, у песьнях [вольна-плынных.
І гэты скарб, пазычаны, адбіты,
У сэрцы пераважыты
І росамі абмыты
Дзяньніц маіх, дзяньніц маіх [мінулых,
Для вас душою чулых,
Як доўг, як дар,
Дае пясьняр.

ЧАСЬЦЬ ПЕРШАЯ.

I

На галіне
Пры даліне
Ліст на дрэве марна гіне:
Ліст зялёны, ды ўмірае
Ліпа, матухна старая.
Ой, сыночка свайго скіне.
Ён пахілы,
Ён нямілы,
У сям'і ня мае сілы:
Тым нялюбы, што адметны,
І браты з ім няпрыветны —
Мусіць лёс такі пастылы.
Пад каронай —
Парасонам
Ліпы пышнай і зялёнай
Адзінокі колас жыта
Рос замкнёна і забыта,
Адарваны ад загона.
— Мілы браце!
Ў чужой хаце
Не нажыць табе багацьця —
Ліст сіротцы спагадае:—
І вясенька маладая
Для цябе — у вечнай страце.
— Так, мне трудна —
Тут нялюдна,
Я тут згіну неабудна,
Ды твой, лісьцік, лёс больш цяжкі:
Ты ў сваёй сям'і бяз ласкі,
Бы ня родны, а прыблудны.

— Ото-ж хлопец урадзіўся!
І ў каго-ж удаўся ён?
Ну, дуды ты ўтарапіўся?..
Лепш-бы ты ня жыў, Сымон...
Уй, няўклюда, мухамора!..
Грэх адзін з ім, адно гора.
Не адзін раз чуў папрокі
Ад бацькоў сваіх хлапчук.
А за што, за што нарокі?
З-за чаго той злосны гук?
І за вошта б'юць малога
І чапляюцца чаго?
Ну, скажэце: што благога
У тых забаўках яго?
Хіба грэх складаць казанкі
Або песенькі? Чаму?
Але-ж гэтыя сьпяванкі
Так і чуюцца яму:

„Я насыплю горку
Жоўтага пясочку;
Праведу разорку
Беленькім кіёчкам.
Шу-шу-шу! — пясочак
Шурхнуў залаценькі.
Пясок — мой дружочак,
Дробненькі-драбненькі.
На пясочку зайкі
Кідаюць сьлядочкі...
Ой, якія байкі
Баюць мне пясочкі!

Хіба-ж грэх казаць пра гэта?
Чаго-ж сварацца бацькі?
Песьняй сэрцайка сагрэта,
Казкай ясьніцца дзянькі.

„Мусіць я, дапраўды, ліха",
Сам сабе казаў Сымон
І чагось сьмяяўся ціха
Ды сьпяваў, званіў, як звон,
Той стары, што са званіцы
Адбіваў таемны зык
Ды каціўся за крыніцы
І дзесь там жалобна нік.
А ён слухае — ні слоўка,
Бы застыне, бы заснё,
І сама сабой галоўка
Заварушыцца, кіўне
У тахт нейкім дзіўным сьпевам,
Што зьвіняць вакол яго,
І ласкаючым павевам
Песьціць, гойдае ўсяго;
Аж захопіць дух блазноце
Нейкі радасны парыў,
І ў самоце-адзіноце
Песьні байкі ён тварыў.
У яго быў сьвет цікавы,
Свае вобразы, жыцьцё,
І ў душы яго ўсе зьявы
Свае мелі адбіцьцё.
Ён і рэха свае кліча
І размову вядзе з ім...
Меў яшчэ ён такі звычай —
Гаманіць з сабой самым.
На сьмех хлопца падымаюць:
— Вось дурубала, даўбня! —
І ў патыліцу штурхаюць,
Бы ня хлопец, а шчаня.
А ён нават не заплача,
Толькі голаву прыгне,
Як яго рука лядача
Неспапсзеўна штурхане.

скокі. Пасьля кароткага антракту выступіў у нацыянальных вопратках хор. Пасьля двух трох нумароў уся публіка была зьдзіўлена ачарована. Гэтая простая мужыцкая песьня, а пры ўмелым выкананьні, колькі мае характва, багацьця мілагучнасьці і чару! Якія багатыя і разнародныя мэлёдыіі-тоны, які гукі, напевыя Потым у вельмі прыгожых вопратках артысты! з „шыкам" скачуць нашу родную „лявоніху". І тут, якое характво. Можна сьмела сказаць, палажыўшы руку на сэрца, што наша, простая „лявоніха" ні сколькі ня ўступае новамодным танцам.

Вельмі добра, што Б. Н. Т. заглянуў у Ляхавічы. Якія трупы сюды ўжо не прыежджалі і жыдоўскія, польскія, расейскія і украінскія і толькі сваей да гэтуль ня бачылі. Аж урэшце дачакалі гэтага сьвята. Б. Н. Т. сваімі ўмелымі мастацкімі выступленьнямі служыць доказам, сьведчыць, што мы жывём, маем сваю літаратуру, гісторыю, а нашай мове, песьні, тэатры, вопратцы знаходзіцца адпаведная пашана ў нас самых і ў другіх народаў, якія маюць, або хочаць мець з намі добрыя адносіны.

Глядзельнік.

# Гаспадарскі аддзел.

## Лягчаньне (выкладаньне) жывёлы.

Надыходзе восень. У шмат якіх гаспадароў прыходзіцца лягчаць (выкладаць) самцоў. Гэту апэрацыю ў нас на Беларусі выконваюць асобыя вандроўныя канавалы, або самыя гаспадары. Ня маючы адпаведнага знаньня, як канавалы—самавучкі, гэтак і гаспадары ня прытрымліваюцца тых прымітыўных (простых) правіл, якія тут неабходны. Дзякуючы гэтаму прылягчаньні жывёлы ў гаспадарцы часта зьяўляюцца нясчасныя выпадкі, ад якіх можна лёгка асьцерагчыся, калі мы будзем прыступаць да гэтай апэрацыі тады, калі ўявім, што вымагае тэхніка лягчаньня.

Каб дапамагчы нашым сялянам у гэтай справе, мы ў гэтым нарысе пастараемся асьвятліць гэтае пытаньне з навукавага пункту гледжаньня, ужываючы спосабы, даступныя па сваей прастаце нашаму сялянству.

Лягчаць звычайна тых самцоў, якіх: 1) ня думаюць пакідаць на племя; 2) якіх пакідаюць для працы; 3) вельмі злых і неспакойных і 4) тых, што маюць пакідаць на зарэз.

Баранаў лягчаць дзеля таго, каб на іх была танчэйшая, раўнейшая і пякнейшая воўна. Сабак — каб былі злыя і пільнаваліся двара. Казлоў — каб давалі лепшую воўну і не сьмярдзелі. Апрача таго можна лягчыць і пеўняў, ад чаго мяса іх смашней і цэніцца даражэй.

Цяпер пачалі шмат дзе лягчыць і самічак, пераважна сьвінак. Вылягчаныя сьвінкі лепш растуць і адкармліваюцца. Так сама выкладаюць кароў калі яны даюць найбольш малака (пасьля трэцяга цяляці), і тады яны некалькі гадоў падрад ня зьменшываюць малака; а калі ў такое каровы стане менш малака, тады яе гадуюць на зарэз і мяса ад лягчоных кароў бывае вельмі смачнае і прадаецца па высокай цане. Вядома, што лягчаньне самічак рызыкоўна і лепш гэту опэрацыю даручыць не канавалам—самавучкам, а вэтэрынарам.

У нас на Беларусі выкладаюць жывёлу рознымі спасобамі, пераважна-ж з дапамогаю „ляшчотак", за апошнія гады для лягчаньня пачалі ўжываць асобны струмант — дацкія ціскі, або „эмаскулятар".

Лягчаньне гэтым спосабам адбываецца скарэй усяго, праз $^1/_4$—$^1/_3$ гадзіны, жывёла не адчувае такіх цярпеньняў, як пры іншых спосабах, і ня бывае вялікага або і зусім ніякага крыватоку.

Сяляне не павінны згаджацца лягчаць жывёлу пад час, калі на вёсцы ці ў ваколіцы ёсьць заразлівыя хваробы. Ня трэба лягчаць і падчас вялікае гарачыні, бо ўсьпякоту жывёла зьнясіляецца праз духату, у ране ў гэты час больш зьяўляецца гной, досіць марудна гоіцца і часта прыкідваецца так зв. грыбавік селіявага ходу. Ня варта лягчаць жывёлу хворую, а таксама ня варта рабіць гэтае апэрацыі і занадта старое жывёле.

Найлепш лягчаць жарабкоў двух гадоў. Вельмі рана (да 1 году) выкладаць коні шкодна, бо гэткія коні хоць і бываюць цыбатыя, але астаюцца маласільнымі, бо ў іх не разьвіваецца як трэба пярэдняя частка корпусу, дзеля чаго яны часта бываюць вузкагрудыя. Парасят лепш лягчаць маладымі, — паміж 2—5 месяцамі.

Найлепш рабіць лягчэньне вясною або ў восень. Перадтым, як пакладаць жывёлу, ня можна яе добра накармліваць. Калі будуць жарабка выкладаць раніцай, дык з вечара лепш не даваць яму зусім нічога есьці.

Пад той час, калі лягчаць жарабка, ці іншага самца, трэба пільнавацца, каб апэрацыю рабілі, як магчыма чысьцей: каб струмант быў чысты, добра прамыты ў вары і ў рашчыне карбоўкі ці крэаліны, каб сама жывёла была добра вымыта жлеўктам з мылам, каб жывёла была палажана на чыстую падсцілку, каб рукі таго, хто будзе рэзаць, былі добра вымыты з мылам і ў карбоўцы аж па локці, каб усё прамежжа таксама было вымыта з мылам і зліта карбоўкам і г. д. Лягчаць варта дзе—небудзь у зацішку (напр. у гумне, на таку), а не на прасторы, каб у рану не наляцела пылу і ўсякага бруду.

Пасьля лягчэньня жывёлу трэба па магчымасьці менш турбаваць, пакуль зусім не загоіцца рана. Можна зьлёгка праеждждаць, каб конь не застаіваўся і праціраў па троху пухліну. Рану ад падрэзу трэба дагиядаць, як звычайную рану, пры гэтым добра ўжываць мазь з крэаліны, каб мухі не садзіліся на рану. Калі-ж рана доўга ня гоіцца, або з яе пачне цячы гной, або калі будзе заўважана якое-небудзь аслажненьне—дык трэба зараз-жа зьвярнуцца да вэтэрынара за парадай.

Сярод жывёлін-саміц найбольш практычнае значэньне мае толькі лягчаньне сьвінак, каб паскорыць адкорм іх. Лягчоныя сьвінкі лепш ядуць і ня трэбуюць кнура. Найлепшая пара году для лягчаньня сьвінак—гэта вясна і восень. Найлепшы ўзрост жывёлы—ад 6 тыдняў да 2—3 месяцаў.

Пеўня (пятуха) лягчаць, каб надаць мясу далікатны смак і павялічыць адкорм. Лягчоны певень (каплун) шмат есьць і вельмі хутка адкармліваецца. Вагі ў каплуна заўсёды на $1^1/_2$—2 ф. болей, чым у нелягчоных. Найлепш лягчыць пеўняў па 3—4 месяцы, у красавіку і ў верасьні.

П. В.

# Весткі з Краю.

## Выбары ў Радашкавічах.

Радашкавічы, адно з большых мястэчак у Заходняй Беларусі ляжыць цяпер на самай граніцы. Места мае сваю камунальную маемасьць і ўпраўляецца магістратам. Як толькі прышла польская ўлада зараз пачала заводзіць свае парадкі. Праз увесь час ня было дагэтуль ніякіх выбараў у магістрат, усей гаспадаркай бескантрольна кіравалі вызначаныя старастай бурмістры і лаўнікі.

Жыхары места некалькі раз падавалі заявы да ўладаў аб вызначэньні выбараў і толькі цяпер 4-га верасьня адбыліся першыя выбары ў меставую Раду. Выбары прайшлі даволі спакойна. З пяці сьпіскаў кандыдатаў прайшлі наступныя радныя:

Са сьпіска № 1: (жыдоўскага) 1. Бампіль Г., 2) Жукоўскі Сым., і 3) Танхелевіч Іс.; Са сьпіску № 2 (мяшчане каталікі - Беларусы): 1) Руткоўскі М., 2) Аўдыцкі Л., 3) Ганіч П., і Залескі І.; Са сьпіска № 3 (жыдоўскі): 1) Ізыгзон Т. і 2) Кагановіч Э.; Са сьпіска № 4 (праваслаўныя і бабтысты — беларусы і жыд.): 1) Крачкоўскі Андрэй, і 2) Слоўшчэр М.; Са сьпіску № 5 (Польскі): 1) кс. Гудэйко Б.

Такім чынам новая рада складаецца з 5 Беларусаў (з 2 і 4-га сьпіску, — 6 Жыдоў (з 1-га, 3-га і 4-га сьпіску) і 1-го Паляка (з 5-га сьпіску).

Трэба прызнаць, што выбарная акцыя вялася даволі мала арганізавана. Каб мяшчане Беларусы не падзяліліся на 2 сьпіскі і частка іх галасоў не пайшла за польскі сьпісак, дык можна было-б спадзявацца для мяшчан 7 мандатаў. Пры наступных выбарах павінна быць больш арганізаванасьці.

Але і цяперашнія выбары далі зусім задавальваючыя вынікі. Трэба толькі пажадаць новай радзе выбраць свайго добрага бурмістра і завясьці лепшыя парадкі ў магістраце.

Тутэйшы.

## Хвароба.

(Пружаншчына).

Ужо блізка год будзець, як прыехаў з Галіччыны і пасяліўся ў в. Сашыцы нейкі падозраны тып—М., ён выбраў сабе сялібу ў самым канцы вёскі, дзе зрабіўшы сабе хатку, нейкі час займаўся шавецтвам.

Праз кароткі час вясковая моладзь заўважыла, што да гэтага панка вельмі часта па вечарах пачалі ездзіць і хадзіць паліцыянты (да тае пары яны былі мілымі госьцямі „пана" К.).

Калі М. дазнаўся, што „інтарэсы" яго з „панамі" выкрыты, дык пачаў,—каб знайсьці давер у вясковай моладзі,—перадаваць ёй, што паліцыя яму прапанавала, за добрую нагароду, быць вясковым шпікам і г. д., „быццам ён ня толькі не згадзіўся, але-ж вось, пад вялікім сэкрэтам(!), перадаець вясковым хлапцам".

Ну, ведама-ж, хлапцы паслухалі, падзякавалі і як раней, трымалі сябе далёка ад гэтага панка, і як ён ні стараўся, дык ня мог здабыць сярод іх сабе прыхільнікаў.

Але вось, апошнія часы дзеецца нешта дзіўнае.

Каб мець хлеб селяніну, трэба працаваць на гаспадарцы ад раніцы да вечара, а „панок" М. з раніцы да вечара, то ходзіць дзе-колечы, то ляжыць сабе дома і нет-нет ды і паедзе да Пружаны „па інтарэсах", а прыехаўшы... то залаты загарак сабе прывязець, то абноўку, то абоі ў хату, ды і ці мала яшчэ чаго, а па вечарох (цяпер вечарамі гуляець моладзь аж за поўначы) ходзе на ўсей вёсцы і падхапіўшы якога хлапца падгаварваець яму тое ды сёе. Тлумачыць, як можна ўцячы ў Расею, ды каго там прыняць могуць, ды ці ня думаець хто туды...

— Хвароба, як ёсьць—грамадзкая хвароба,—але лекі ад яе ёсьць і вельмі лёгкія для селяніна, бо ня патрабуюць грошай:

— Пагарда і... асьцярожнасьць.

Нятутэйшы.

## Сабака сабаку не зачэпіць.

(Пружаншчына).

Калі ў каго колечы, праходзячы па вёсцы паліцыянт заўважыць на двары ня прывязанае шчанё, дык ураз-жа пратакол; ўратаваць можа толькі хіба адна сьвятая ўсемагутная „бутэлька".

А вось ідучы да мястэчка Сельца праз былы маёнтак „Селец" дзе цяпер цэлая свора асаднікаў вайсковых, ня можна адагнацца ад цэлых дзесяткаў асадніцкіх сабак, якія цябе абступяць сьпераду і ззаду. Але паліцыянты гэтага ня бачаць.

І як толькі гэныя кручкі з blішчачымі гузікамі самі могуць прайсьці?

І чаму гэта асаднікам даецца гэтакая льгота?

Здаецца-ж канстытуцыя, быццам раўняе ўсіх грамадзян?! Ці можа асаднікі не грамадзяне, калі выкананьне закону для іх ня зьяўляецца абавязкам.

Оса.



Рэдактар і выдавец А. Герасімчук.

Беларуская Друкарня ім. Ф. Скарыны, Вільня—Людвісарская 1.